# ПАГОНЯ

Чацвер
1 лютага 2001 г.
№ 5 (501)
Кошт 80 рублёў


## Шэйман кантралюе Гарадзеншчыну

**Віктар Шэйман, новы генеральны пракурор Беларусі наведаў у панядзелак Гродна. Афіцыйнай прычынай прыезду у наш горад чыноўніка такога рангу было шэрагове паседжанне абласной пракуратуры. Аднак вядома, што Аляксандр Лукашэнка прызначыў Віктара Шэймана галоўным кантралёрам на Гарадзеншчыне. Таму прыезд генпракурора стаў найперш своеасаблівым знаёмствам з падначаленай тэрыторыяй.**

Нягледзячы на тое, што ў вобласці за мінулы год засталіся нераскрытымі 1290 злачынстваў, з іх 13 забойстваў Віктар Шэйман даў здавальняючую ацэнку працы пракуратуры вобласці.

Шэраговае паседжанне абласной пракуратуры апынулася досыць прадстаўнічым. Акрамя Шэймана перад пракурорамі выступіў старшыня гарадзенскага аблвыканкама Аляксандр Дубко. Ён між іншага заявіў, што Шэйман вельмі паважае Гарадзеншчыну. Цікава, што б гэта магло азначаць...

## «Азот» перастаў выраблязь труны

**На гарадзенскім хімічным прадпрыемстве «Азот» больш не будуць выраблязь труны. Такое рашэнне прыняла нядаўна адміністрацыя завода. Прычына рашэння - адсутнасць ліцэнзіі на такога кшталту дзейнасць.**

На «Азоце» над вытворчасцю трунаў працавала спецыяльная брыгада. Дамавіны не прадаваліся, проста кожны работнік завода мог, пры ўзнікненні пэўных трагічных абставінаў, тэрмінова замовіць труну любых памераў. Да таго ж, адміністрацыя прадпрыемства і прафсаюз дапамагалі матэрыяльна, адпаведна па 20 і 25 тысяч рублёў. Зразумела, кожны хто меў знаёмых на «Азоце» ці ў брыгадзе мог дамовіцца на труну за пляшку-другую.

Цяпер замест дамавінаў, у выпадку смерці сваіх родных, супрацоўнікі завода будуць атрымліваць пэўную матэрыяльную дапамогу. Адміністрацыя выдаткоўвае 45 «мінімалак», а прафсаюз - 15. Агулам - 216 тысяч рублёў.

**Павал Мажэйка**

## Разумных стане больш

**Заўтра, 2-га лютага, у Доме тэхнікі адбудзецца прэзэнтацыя міжнароднага праекта «Бізнес + магістратура».**

Гэта сумесны праект Рыжскай школы бізнесу, Універсітэта Баффала (ЗША) і Гарадзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы. Кіраўнік з беларускага боку Уладзімір Лі гаворыць, што галоўная мэта бізнес-магістратуры - падрыхтоўка высокакваліфікаваных кіраўнічых кадраў.

Курс бізнес-магістратуры складаецца з двух этапаў. Першы, падрыхтоўчы, што мае назву «Pre-MBA», пачне сваю работу ўжо ў лютым. Тут можна будзе ўдасканаліць свае веды ў ангельскай мове, пазнаёміцца з бізнес-дысцыплінамі і работай з камп'ютарам. «Pre-MBA» - неабходная ўмова для паступлення на II этап праекта - MBA (MASTER of BUSINESS Administration), які распачнецца ў кастрычніку 2001 года. Навучанне платнае. Абітурыентам Гарадзенскай магістратуры зможа стаць у першую чаргу чалавек з вышэйшай адукацыяй і досведам работы.

**Алена Сіневіч**

## НАДВОР'Е



**1 лютага** - па вобласці і гораду - невялікі снег. Вецер паўночна-ўсходні 4-9 м/с. Тэмпература ўначы - 4...-9, удзень +6... -6. **2 лютага** - воблачна, з праясненнямі, часамі - невялікі снег. Тэмпература паветра - удзень -4...-9, ноччу месцамі да -12.

# Хвароба «брудных рук» перамагае нашых дзяцей!

**У Гродне зафіксаваны рост хворых на вірусны гепатыт А. У студзені 2001 года было выяўлена 46 чалавек.**

**За 2000 год колькасць хворых на вірусны гепатыт А падвысілася ў 6,8 раза. Калі ў 1999 годзе іх было 40 чалавек, то ў 2000 годзе - 272.**




- Гэта не ёсць эпідэмія, - паведаміла доктар-эпідэміёлаг Ірына Тупік. - Для віруснага гепатыту А характэрная цыклічнасць: перыяды пад'ёму і спаду. У пачатку 90-х назіраўся перыяд пад'ёму, у 1995-1999 гадах - перыяд спаду. Зараз зноў ідзе цыклічны пад'ём. Гэта нармальная з'ява. Мы пра яе ведалі і прагназавалі.

Хварэюць у асноўным дзеці ад 7-мі да 14-ці гадоў і маладыя людзі да 35-ці гадоў. Старэйшыя, у асноўным, ужо перахварэлі і маюць імунітэт.

- Існуюць так званыя скрытыя бессімптомныя формы хваробы, - распавядае доктар-эпідэміёлаг Ірына Тупік. - Чалавек можа хварэць і сам пра гэта не ведаць.

Асноўны шлях перадачы віруснага гепатыту А ў нас - гэта кантактна-бытавы. Адзін з надзейных спосабаў прафілактыкі - вакцынацыя - дорага каштуе, і ў нашай дзяржаве няма на гэта грошай. Таму, калі вы хочаце мець свежы румянец і бадзёры настрой, мыйце рукі і выконвайце правілы асабістай гігіены.

**Юля Коцкая**

**Даведка:** ***Вірусны гепатыт А належыць да групы інфекцыйных захворванняў і выклікаецца пастуленнем у арганізм віруса. Праяўляецца сімптомамі інтаксікацыі: млявасцю, санлівасцю, павышэннем тэмпературы, ірвотай, болямі ў жываце, пажаўценнем скуры і пашкоджаннем печані.***

***Асноўныя шляхі перадачы - водны, харчовы, кантактна-бытавы.***

# Забойствы ці самазабойствы?

**У Гродне ўтварыўся бацькоўскі камітэт, які патрабуе інтэнсіўнага расследавання забойстваў маладых дзяўчатаў, якія мелі месца ўвесну-ўлетку мінулага года.**

У гэты камітэт уваходзяць бацькі Вольгі Шор, цела якой было знойдзена ў Нёмане ў раёне вёскі Зарыца 17 красавіка, Вольгі Гарашчук, знойдзенай у тым жа месяцы 27 красавіка, Веры Воранавай, цела якой было знойдзена побач з тым месцам 24 жніўня, і Люды Кодзік, знойдзенай у Нёмане ля Зарыцы 29 жніўня. Вінаватых у смерці дзяўчатаў не ўстаноўлена.

Бацькі ахвяраў неаднаразова звярталіся ў Міністэрства ўнутраных справаў, пракуратуру, да Аляксандра Лукашэнкі. Больш за ўсё сем'і Шор і Гарашчук абурае той факт, што крымінальныя справы па фактах смерці іх дзяўчынак распачатыя паводле артыкула «давядзенне да самазабойства». У сваім лісце ў рэдакцыю ПАГОНІ яны пішуць, што абедзве дзяўчыны былі адзінымі дзецьмі ў сям'і, мелі вялікія планы на будучыню, былі высокімі і прыгожымі. Праз сродкі масавай інфармацыі яны патрабуюць ад пракуратуры стварыць адмысловую следчую групу, якая магла б заняцца не разрозненымі эпізодамі, а ўсімі забойствамі, якія, як яны мяркуюць, маюць агульныя рысы.

- Мы будзем звяртацца і ў агульнарэспубліканскія СМІ, - кажа Святлана Іванаўна Шор, - будзем дамагацца прафесійнага выканання праваахоўнымі органамі сваіх абавязкаў. Калі не пасадзяць», - у роспачы дадае яна. Бацькі збіраюць з гарадзенскіх газетаў звесткі пра забойствы і знікненні маладых дзяўчатаў у раёнах, блізкіх да Гродна. Яны лічаць, што ў гэтай справе значна больш эпізодаў, чым узгаданыя чатыры.

**Ул. інф.**

**Ад рэдакцыі: ПАГОНЯ мае намер у бліжэйшых нумарах вярнуцца да гэтай справы больш падрабязна**

## Найк Барзоў адмяняецца

**У аўторак быў адменены разрэкламаваны па тэлебачанні канцэрт расейскай зоркі Найка Барзова.**

**Як высветлілася, гарадзенцы не зацікавіліся эксклюзіўным шоўмэнам. З двух тысяч квіткоў у Лядовы палац, якія каштавалі 3-5 тысячаў было прададзена толькі 120.**

**Да ведама прыхільнікаў эстрады, усе квіткі на канцэрт Валерыі прададзеныя. Нягледзячы на тое, што кошт іх вагаўся ад 8 да 15 тысячаў**

**Алена Сіневіч**

# Гіганты працуюць на склад

**33 працэнты прадукцыі, якую выпускаюць гарадзенскія прадпрыемствы, не прадаецца і застаецца ляжаць на складах - заявіў мэр Гродна Анатоль Пашкевіч на нарадзе дырэктараў вытворчых прадпрыемстваў горада. Наогул за мінулы год на гарадзенскіх прадпрыемствах было выраблена прадукцыі на 221 мільярд беларускіх рублёў.**

Найбольш цяжкае становішча ў цэлюлёзна-папяровай, лёгкай галінах прамысловасці і ў вытворчасці будаўнічых матэрыялаў. Не прадаецца прадукцыя Мэблевай фабрыкі, Абутковай фабрыкі «Нёман», завода «Белтапаз».

Унітарнае прадпрыемства «Азот», адно з самых буйных хімічных прадпрыемстваў у Еўропе, страціла свае рынкі ў Індыі ды Кітаі, дзе з'явіліся ўласныя заводы па вытворчасці карбаміду. Цяжкасці ёсць і з рэалізацыяй капралактама - асноўнай крыніцы для валютных паступленняў.

Не лепшая сітуацыя і ў Лідзе, другім па колькасці насельніцтва горадзе Гарадзеншчыны. На многіх прадпрыемствах запасы гатовай прадукцыі ў 2000 годзе павялічыліся больш як удвая.

**Павал Мажэйка**

**Працяг тэмы на стар. 4**

## Міліцыю абрэжуць?

**З надыходам новага тысячагоддзя ў Беларусі распачалося скарачэнне міліцэйскіх кадраў. Колькасць міліцыянтаў у краіне мусіць быць зменшаная на пяць тысяч. Як ставяцца да скарачэння міліцэйскага штату? - ПАГОНЯ вырашыла даведацца ў гарадзенцаў.**



**Анатоль Малікаў, пенсіянер:**

- Я да гэтага стаўлюся станоўча. Занадта шмат іх стала. Не думаю, што скарачэнне неяк паўплывае на грамадскі парадак.

**Ніна Аляксееўна Калеснікава, пенсіянерка, працуе ў цэнтры «Алімп»:**

- Адмоўна, мая міліцыя мяне ахоўвае. Я і зараз сябе не вельмі абароненай адчуваю, а яшчэ горш будзе. Шмат назіраецца выпадкаў, праўда, калі міліцыянты працуюць не там, дзе было б пажадана. Я нават была сведкай: ідзе мужчына п'яны, нікога не чапае, а яго пачынаюць грузіць у машыну, вельмі кепска абыходзіцца з ім.

**Валерый, працуе ў службе «Аховы»:**

- Я пра гэта нічога не ведаю. Калі скарачэнне і адбудзецца, думаю, мала што зменіцца. У прыватнасці, на маім заробку гэта ніяк не адаб'ецца. А ўсе кадравыя перарзамеркаванні выраўшыць начальства.

**Вольга Сямашка, студэнтка Інстытута падвышэння кваліфікацыі пры ГрДзУ:**

- Я лічу, што гэта разумна. Міліцыянтаў надта шмат развялося, але яны не вельмі адукаваныя, на мой погляд. Хацелася б, каб у міліцыі было больш прафесіяналаў. Сапраўдныя прафесіяналы, нават у невялікай колькасці здольныя добра выконваць свае абавязкі.



**Галіна Шышкова, салістка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Міхаіла Фінберга:**

- На 90 працэнтаў я адмоўна стаўлюся да гэтага скарачэння. Хацелася б, каб міліцыянтаў было паболей: сачыць за парадкам, за бяспекай. Бо ў сувязі са скарачэннем, хутчэй за ўсё, павялічацца дробныя парушэнні.



**Сяргей, прадпрымальнік:**

- Калі скарачэнне падлягае пазаведамасная ахова, то гэта дрэнна. Іншая справа, калі міліцыянт на працы практычна нічога не рабіў, калі гэта лішні чалавек. Напрыклад, як раней у войску палітработнікі. Тады якая розніца: ёсць ён ці яго няма. Ці ахоўвае мяне міліцыя? Па-мойму, наадварот. З гэтага пункту гледжання іх нават зашмат.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Апазіцыя паціху завальвае выбарчую кампанію

**Вось ужо больш як пяць гадоў мы ідзем па жыцці ў нейкі свой, адрозны ад усіх іншых народаў, спосаб. Каб гаворка ішла не пра беларусаў, а, да прыкладу, пра арабаў, то можна было б сказаць, што гэта - нацыянальнае. У нас жа скрыўлены, збочаны партызанскі шлях у вялікай адлегласці ад пракладзенай іншымі народамі шашы тлумачыцца перажыткамі сацыялізму і стэрэатыпамі савецкага ладу жыцця, усмактанымі з дзетсадаўскімі кашамі і ўбітымі ў галаву на партыйна-гаспадарчых актывах.**

Ва ўяўленні тыповага савецкага чалавека ўвесь астатні свет (за выключэннем СССР) стаяў дагары нагамі; і толькі ў нас усё было правільна.

Падобныя погляды захаваліся ў большасці беларускіх кіраўнікоў, а ў некаторых, асабліва няздатных да навучання, нават абвастрыліся.

### А.Лукашэнка перамагае, нічога не робячы

Пра А.Лукашэнку і яго памагатых усё даўно зразумела: савецкі сацыялізм для іх з'яўляецца ідэалам арганізацыі грамадскага парадку. Гэты лад жыцця, параўнальны з першабытным племянным калектывізмам, дазваляе ім кіраваць 10-мільённым насельніцтвам прымітыўнымі першабытнымі метадамі, вычытанымі некалі ў «кнізе кнігаў» - падручніку гісторыі КПСС.

Аднак, менавіта каманда шарыкавых і швондэраў дасягае ў палітыцы найбольшай эфектыўнасці. Маючыя адбыцца ўвосень выбары прэзідэнта яна таксама выйграе, а калі не выйграе, дык сфальсіфікуе.

Спыніць рэжым здолеў бы моцны канкурэнт-дэмакрат, які сканцэнтруе альтэрнатыўныя дзяржаўнаму механізму сродкі і дамовіцца з прадстаўнікамі дзяржапарату хаця б пра нейтралітэт. Пытанне ў тым, скуль узяць такога канкурэнта ў краіне, якая ходзіць у параўнанні з астатнім светам па супрацьлеглых гарызанталях.

### Прафсаюзы загуляліся

Для чаго існуюць прафсаюзы? Каб бараніць рабочых ад эксплуатацыі працадаўцамі, выступаць адвакатамі рабочых у калектыўных ды індывідуальных спрэчках. У нас жа прафсаюзы з савецкіх часоў уваходзяць у кіраўніцтва прадпрыемства (узгадаем знакаміты «трохкутнік»: дырэктар, парторг, прафорг).

У Беларусі галоўным працадаўцам з'яўляецца дзяржава. Такім чынам, роля прафсаюзаў у нас - быць галоўным апанентам урада, прычым любога: і левага, і правага. Замест гэтага лідары прафсаюзаў Ул.Ганчарык, А.Ярашук ды іншыя жадаюць вылучыцца на пасаду прэзідэнта, каб самім ачоліць выканаўчую ўладу, г.зн. стаць працадаўцамі. Хто будзе бараніць рабочых? З кім будуць змагацца прафсаюзы: самі з сабою?

Я ўжо не кажу пра ідэнтычнасць уяўленняў прафсаюзнай вярхушкі з ідэалогіяй сённяшніх прыхільнікаў рынкавага сацыялізму. Няўжо Ганчарыку не даюць спакойна спаць лаўры польскай «Салідарнасці»? Дарэмна, бо «Салідарнасць» і Федэрацыя прафсаюзаў беларуская (ФПБ) - рэчы абсалютна розныя, як розныя і людзі, якія туды ўваходзяць і там кіруюць.

### Партыі заснулі

Усе незалежныя палітычныя партыі ў нас ідэалагічна вельмі падобныя. Адрозненні паміж імі стануць вызначальнымі толькі ў будучыні, калі зменіцца ўлада А.Лукашэнкі. Тым не менш, партыі, замест таго, каб ствараць агульную выбарчую кааліцыю з агульнымі кандыдатамі, інтрыгуюць адна супраць другой. Што дазваляе песціць надзею ўсялякім ганчарыкам, і, што горш, разнастайным авантурыстам.

Нават, калі перамога будзе не за А.Лукашэнкам, то на плячах тых, хто змагаўся з рэжымам, да ўлады прарвуцца новыя прайдзісветы. Хаця ў рэальнасці, калі не будзе дасягнутае пагадненне і аб'яднанне апазіцыі, перамога - гэта фантастыка, утопія.

### Хто скажа ленінскую фразу?

Народ маўчыць. І правільна робіць. Бо апаненты А.Лукашэнкі дэманструюць палітычную імпатэнцыю, брак адказнасці за лёс краіны, дробязнае інтрыганства, непрыхаваную прадажнасць. Калі яшчэ так працягнецца хаця б месяц, то можна будзе ставіць крыж на спадзяваннях змяніць уладу.

Думаецца, што нехта павінен узяць на сябе ўсю паўнату адказнасці. Пакуль яшчэ не позна.

**Сяргей Самасей**

# Няхай канфіскуюць шлёпанцы!

**Суд Ленінскага раёна горада Гродна хоча канфіскаваць маёмасць Святланы Нех, намесніцы старшыні гарадзенскай Маладой Грамады. Да дзяўчыны ўжо двойчы на мінулым тыдні прыходзілі судовы выканаўца з двума міліцыянтамі. Светы не было ў хаце, таму чыноўнікі толькі паведамілі бацькам дзяўчыны, што на іх дачку накладзены штраф у 540 тысяч рублёў, таму будзе складзены вопіс маёмасці кватэры.**

Насамрэч, два месяцы таму суддзя Дземчанка прысудзіў Святлане Нех 150 мінімальных заробкаў штрафу за арганізацыю «Маршу свабоды» і пікету «Пераменаў!» у Гродне (гл.ПАГОНЮ N45 ад 30 лістапада 2000 года). Але Святлана, як і ўсе іншыя ўдзельнікі акцыяў, падала скаргу ў вышэйшыя інстанцыі.

- Пакуль ідзе абскарджанне рашэння суда, ніхто не мае права рабіць вопіс маёмасці, - лічыць старшыня Гарадзенскай філіі праваабарончай арганізацыі «Вясна-96» Сяргей Мальчык. - Таму наведванні кватэры Светы Нех - гэта проста псіхалагічны ўціск на Святлану і яе бацькоў.

Святлана жыве ў аднапакаёвай кватэры разам з матуляй, татам і малодшай сястрычкай. Самае каштоўнае з рэчаў у сям'і - стары каляровы тэлевізар.

- Адзінае, што ёсць уласна маё ў гэтай кватэры - старыя шлёпанцы, - кажа Света.

Дзяўчына працуе ў Цэнтры пазашкольнай працы. Яе заробак за апошні месяц склаў 18 тысяч рублёў. Каб штомесяц вылічваць з яго 20 працэнтаў на пагашэнне штрафу, спатрэбіцца 12 з паловай гадоў.

**Юлія Дарашкевіч**

# БПСМаўскі лідар мацюкаецца

**30 студзеня ў актавай зале Музычна-педагагічнай вучэльні пяць БПСМаўскіх камандаў Гарадзеншчыны змагаліся за права называцца лідарам XXI стагоддзя.**

Гэта быў фінал спаборніцтва. У яго патрапілі лепшыя першасныя арганізацыі БПСМ, адабраныя ў раёнах. Імі сталі каманда «Садружнасць» сярэдняй школы N8 горада Слоніма, дзявочая каманда «Gold Fish» СШ N3 горада Слоніма, «Радунька» з Радуньскай сярэдняй школы, каманда зэльвенскай СШ N2 ды ПТВ N193 з Навагрудка.

На працягу дзвюх гадзін спабору ад «беларускіх патрыётаў» не прагучала ніводнага беларускага слова. А ў перапынках юныя салісткі з музпедвучэльні міла пераспявалі расейскую папсу.

Першае месца прадстаўнічае журы на чале з першым сакратаром Гарадзенскага абласнога камітэта БПСМ Валерыем Клімовічам прысудзіла камандзе «Садружнасць». За некалькі хвілінаў да абвяшчэння вынікаў я звярнулася да аднаго з удзельнікаў «найлепшай з лепшых» камандаў-лідараў і запыталася ў яго аб прынцыпах адбору ў фінал. «Я е...у», - атрымала я змястоўны адказ «патрыёта».

**Крыстына Паўлючонак**

# Людзі ў штацкім пачалі прэзідэнцкую кампанію

**За некалькі апошніх дзён студзеня адбыліся тры злачынныя напады на офісы беларускіх грамадскіх арганізацыяў. У ноч з 26 на 27 студзеня была скрадзена камп'ютарная тэхніка і дакументы з офіса Берасцейскага цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «Вежа». З 25 на 26 студзеня абрабаваны Верхнядзвінскі інфармацыйна-рэсурсавы цэнтр «Рубон». У мінулыя выхадныя невядомыя выламалі дзверы ў офісе слонімскага грамадскага аб'яднання «Воля да развіцця».**

Як паведамляў кіраўнік аб'яднання «Воля да развіцця» Міхась Варанец, невядомыя выламалі ўваходныя дзверы, але нічога не скралі, бо на момант узламання тэхніка і дакументы ў памяшканні адсутнічалі.

Гэта ўжо другі напад на слонімскую арганізацыю. У кастрычніку мінулага года злачынцы вынеслі з офіса два камп'ютары, дзве друкаркі, капіравальны апарат, мадэм, сканер і факс. Рабаўнікоў міліцыя яшчэ шукае.

Міхась Варанец лічыць, што злодзеі свядома абралі дзень злачынства. Спецыялісты з аб'яднання «Ахова» толькі ў аўторак павінны былі ўсталяваць у офісе сігналізацыю, таму злачынцы меркавалі, што новая тэхніка будзе знаходзіцца ў неахоўваемым памяшканні.

Інфармацыйна-рэсурсавыя цэнтры займаюцца падтрымкай недзяржаўных грамадскіх ініцыятываў, спрыяюць пабудове грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. Напярэдадні маючых адбыцца выбараў прэзідэнта Беларусі яны маюць стаць галоўным вязьмом паміж альтэрнатыўнай інфармацыяй і насельніцтвам у рэгіёнах. Таму не выключана, што шэрагам злачынных нападаў улада хоча фізічна і маральна паралізаваць іхнюю дзейнасць.

**Павал Мажэйка**

# Прыйшоў час на вялікую ўборку ў Беларусі

**Словы, вынесеныя ў загаловак, цалкам маглі б стаць галоўным лозунгам у агітацыйнай кампаніі на выбарах прэзідэнта Беларусі. Уявіце плакат - стаіць адзіны кандыдат ад дэмсілаў, у пінжаку з гальштукам, у акулярах і з дабротным венікам. Вымятайся, маўляў, шклоўскі гусь, не пагань Беларусь!**

Чатыры месяцы таму мы засталіся са сваім дыктатарыкам адныя ў цэлай Еўропе. Сербы скінулі свайго Слобо, дэмакратычныя партыі перамаглі на выбарах у парламент, і галоўнай праблемай цяпер, як шчыра сказала мне знаёмая сербка, застаецца тое, што з недзяржаўных арганізацыяў пачаўся магутны адток разумных людзей ва ўладу. Сербія трывала стала на новыя рэйкі і кінулася наўздагон за сваімі суседзямі - харватамі, славенцамі - адбіваць месца на карце Еўропы.

- Раней нам патрэбна была моц», - кажуць сербы, і дадаюць, - а сёння нам патрэбны толькі розум.

Апошнім часам Аляксандру Лукашэнку для таго, каб выйсці з сябе, дастаткова пачуць два словы: «варыянт Каштуніцы». Ён адразу шалее і пачынае страшыць нас NATO, нейкімі бомбамі і неачышчаным уранам.

Баіцца Аляксандр Рыгоравіч не бомбаў, баіцца ён таго, як талкова і, самае галоўнае, негвалтоўна скінулі сербы Мілошавіча. А Беларусь сёння вельмі падобная на Сербію ўчора. Хаця не зусім.

Сербы, безумоўна, наглыталіся крыві і нянавісці за час усіх сваіх войнаў 90-х гадоў.

Весна Голіч, маладая сербская апазіцыянерка, не стрымлівае слёзы, калі глядзіць відэаролік з жахлівымі ваеннымі кадрамі, якія суправаджаюць словы Мілошавіча: «Маё сумленне чыстае!».

Але вось дыктатура памілошавіцку - гэта і восем недзяржаўных тэлеканалаў у Нішы, другім па колькасці насельніцтва горадзе Сербіі. Скрыня з улёткамі ў правінцыйным гарадку можа стаяць увесь дзень, паліцыя не рэагуе, і кожны падыходзіць ды спакойна бярэ друкаваную прадукцыю. Гэта і 42 мільёны даляраў, выдаткаваных сербскай апазіцыі на выбары міжнароднымі арганізацыямі і 100-тысячная «сустрэча» з выбаршчыкамі лідараў апазіцыі ў цэнтры Белграда.

На трыбуну ўзлазіць прадстаўнік моладзевай арганізацыі «Отрог» і ласкава дае апазіцыянерам зразумець: маўляў, годзе балбатаць, выбірайце адзінага кандыдата, а не то... Усё проста, як на нашым Кангрэсе дэмакратычных сілаў.

У сербаў урэшце рэшт не было папярэдняга галасавання, якое ў нас «робіць» усе вынікі.

Сербы - малайцы, яны назвалі сваю кампанію «Gotov je!» «Стоп-Лука» - прыблізна гучыць гэты лозунг, калі перакласці яго на беларускі капыл.




**Гэта - перадвыбарчы плакат часоў прэзідэнцкай кампаніі ў Сербіі. Падлетак, які не мае права прагаласаваць, гаворыць: «Мне вельмі патрэбны твой голас»**

Сёння ўжо 30 працэнтаў беларусаў вырашылі, што будуць галасаваць супраць Лукашэнкі. Але 60 працэнтаў з іх упэўненыя, што Лукашэнка ўсё роўна пераможа. Мы не верым у свае сілы. Мы не верым у тую справу, якую робім. Мы не верым у той вынік, да якога імкнемся. Няўжо нам патрэбныя яшчэ сем гадоў такога хакея...

**Павал Мажэйка**

# БарАДЗІН ужо сеў

**Затрыманне ў Нью-Ёркскім аэрапорце выканаўчага сакратара Саюза Расеі і Беларусі носіць, без сумневу, сімвалічны характар. Павел Барадзін, «правая рука» Барыса Ельцына, «лепшы сябра» Аляксандра Лукашэнкі, «хросны бацька» Уладзіміра Пуціна адчуваў сябе ў Расеі і саюзнай Беларусі ў поўнай бяспецы, хаця швейцарская пракуратура выдала міжнародны ордэр на ягоны арышт. Але ў нас такіх людзей ніколі не арыштоўваюць, нават, калі яны крадуць 25 мільёнаў даляраў.**

Чаму Барадзін папёрся ў Амерыку, нягледзячы на міжнародны ордэр на арышт? Думаецца, што вінаватыя ўсё тыя ж грошы. Крамлёўскія дзялкі даверылі Барадзіну не толькі дзяржаўныя, але і ўласныя сродкі. Стаўшы невыязным, Барадзін падвёў таварышаў. Таму ён пайшоў на вялікую рызыку - паехаў у Амерыку ратаваць грошы ўласнай персонай.

Чаму так забегалі чыноўнікі ў Маскве і ў Менску, спрабуючы любымі спосабамі выцягнуць Барадзіна з амерыканскай турмы? Таму, што Барадзін ведае ўсю канспіратыўную «кухню», на якой вышэйшыя рускія і беларускія чыноўнікі «наварвалі бабкі». Калі раптам Барадзін пачне расказваць усё тое, што ён ведае, крамлёўскія кіраўнікі страцяць і грошы, і ўладу. Тое самае тычыцца і менскіх начальнікаў.

... Ні адзін з тых, хто абабраў за апошнія дзесяць гадоў расейскі і беларускі народы, не тое што не адказалі перад законам, а нават не страцілі працу. Аднак, гісторыя з Паўлам Барадзіным сведчыць, што ёсць на свеце справядлівасць.

**Сяргей Самасей**

# Аўстрыякі наведалі Гродна са сваімі ложкамі

**«Аўстрыя памалу набліжаецца да вас», - абвясціў Антон Антл, чалавек з надзвычай добрымі вачыма. З нашэсцем NATO гэтая фраза не мае нічога агульнага, зусім наадварот. Спадар Антл - кіраўнік аўстрыйскай грамадскай арганізацыі «Дапамога прыносіць радасць» з горада Галнойкірхен. Разам з доктарам Пірнштайнам, актывістам ініцыятыўнай групы «Дапамога Чарнобылю» (горад Кірхшлаг), яны прывезлі ў Гарадзенскую бальніцу хуткай дапамогі 50 функцыянальных ложкаў. У іх маюць вострую патрэбу практычна ўсе аддзяленні бальніцы, асабліва траўматалагічнае. Перасячэнне мяжы, растаможка і разгрузка прайшлі хутка і без затрымак.**



Разгрузка «гуманітаркі» - спецыяльных функцыянальных ложкаў у двары Гарадзенскай бальніцы хуткай дапамогі

Для галоўнага ўрача і супрацоўнікаў такі шчодры падарунак стаўся прыемным сюрпрызам. Бо ніякіх запытаў у Аўстрыю быццам бы не дасылалі. Але, як вядома, свет трымаецца на добрых адносінах паміж людзьмі. Летам група беларускіх дзяцей з Гродна ездзіла ў Аўстрыю на аздараўленне. Прымалі іх там Роза Капфер (таварыства «Дапамога Чарнобылю») і вышэйзгаданая арганізацыя, якой кіруе Антон Антл. Госці і гаспадары шмат гутарылі, расказвалі пра сваё жыццё. Людзі з добрым настроем ў душы хутка знаходзяць агульную мову. З групай дзяцей была і доктар, супрацоўніца Гарадзенскай бальніцы хуткай дапамогі. Аўстрыйцы прасякліся праблемамі нашай медыцыны і паабяцалі дапамагчы. Адпачынак завяршыўся, і беларусы вярнуліся дадому. Але актывісты аўстрыйскіх дабрачынных арганізацыяў не забыліся на свае абяцанні. Увесь гэты час яны шукалі магчымасць іх рэалізацыі. І вось званок з Аўстрыі: адзін са шпіталяў праводзіць замену абсталявання, ёсць 50 ложкаў. Канешне, былыя ў карыстанні, але з нержавейкі, у 100-працэнтна працоўным стане, на колках. Дарэчы, новы такі ложак каштуе прыкладна 3,5 тысячы марак.

Далей неабходна было арганізаваць дастаўку дабрачыннага грузу ў Гродна. Гэты клопат узяў на сябе Антон Антл. Ён знайшоў аўтафургон з прычэпам, што ішоў улегцы ў Брэст, аплаціў усе выдаткі па транспартаванню і разам з доктарам Пірнштайнам прыбыў з грузам у Гродна. Апроч ложкаў, яны прыхапілі яшчэ дзве кайстры разнастайных «дробязяў»: аперацыйных інструментаў, канцтавараў і нават дзіцячых цацак.

Дарэчы, пра дабрачыннасць. Як гэта ні дзіўна, але ўспрымаюць яе нашыя грамадзяне вельмі па-рознаму. Зусім не ўсе з чыстым сэрцам і ўдзячнасцю. З удзячнасцю ў нас увогуле цяжка, рэдкае гэта пачуццё ў нашым нацыянальным характары. Але бывае горш: шчырае жаданне людзей аказаць бязвыплатную дапамогу выклікае падазру: ці не хаваюцца за жэстам добрай волі шпіёнскія намеры...

Што рухае аўстрыйскім грамадзянінам спадаром Антлам, калі ён кідае ўсе свае справы, шукае транспарт для перавозкі гуманітарнага грузу ў беларускі горад Гродна? Дарэчы, неабходнай сумы ў яго перад паездкай не аказалася. І каб зэканоміць час ён пазычыў грошы ў сваёй сястры-пенсіянеркі. «Я, - кажа Антон Антл, - з вельмі беднай сям'і. Але зараз жыву добра і ні ў чым не маю патрэбы, таму я магу дапамагаць іншым». Формула падаецца вельмі простай. Хаця так яно і ёсць на самой справе. У краінах эканамічна ўпарадкаваных сістэма дабрачыннасці падтрымліваецца і дзяржавай, і грамадствам. На пытанне «які працэнт насельніцтва Аўстрыі гатовы да дабрачыннасці (паводле статыстыкі, у ЗША - 50 працэнтаў)?» спадар Антл адказаў наступнае: «У нашым гарадку 8 000 жыхароў. З іх знойдзецца не больш як 100 чалавек, якія не адрэагуюць на просьбу наконт бязвыплатнай дапамогі». Задача актывістаў дабрачынных арганізацыяў - заахвоціць людзей, расказаць, для чаго збіраюцца сродкі, а потым абавязкова зрабіць справаздачу, як яны былі выкарыстаныя.

Праз два дні аўстрыйцы вярнуліся дамоў. Яны засталіся задаволеныя прыёмам у Гродне. Падчас размовы ў кабінеце галоўнага ўрача Уладзіміра Сазонава спадар Антл і доктар Пірнштайн цікавіліся, што яшчэ неабходна бальніцы і дактарам. На гэты конт у нашых бальніцах можна складаць цэлыя спісы. Узяць хоць бы тыя ж функцыянальныя ложкі. У Гарадзенскай бальніцы хуткай дапамогі з 500 ложкаў 475 - хірургічнага профілю. Да таго ж, як высветлілася, у гэтай лячэбнай установе ў хуткім часе адчыніцца радзільнае аддзяленне Кастрычніцкага раёна горада Гродна.

Так што па прыкідках медыкаў, яшчэ 100 такіх самых функцыянальных ложкаў тут зусім не будуць лішнімі. Хочацца верыць, што кантакты з дабрачыннымі арганізацыямі Аўстрыі на гэтым не спыняцца. І гэтая краіна напраўду стане да нас бліжэй.

**Ніна Палуцкая**

# За грошы можна паглядзець на «органы» ў слоічках

**З сярэдзіны лютага ў Гродне адкрываецца музей агульнай анатоміі. Экспазіцыя будзе працаваць у Батароўцы, пры кафедры анатоміі чалавека. Там жа, пасля перапынку працягласцю ў паўтара месяца, адновіць сваю дзейнасць экспазіцыя «Катастрофы чалавечага цела» музею тэраталогіі. Абодва музеі будуць прадугледжваць толькі групавое наведванне з праслухоўваннем навукова-папулярных лекцыяў.**

Музей агульнай анатомііназапашваў экспанаты з 1960 года, але адкрыецца для наведвальнікаў ён толькі зараз. У музейнай экспазіцыі больш за сотню экспанатаў-кавалкаў чалавечага цела, ад нырак і бронхаў да палавых органаў. У якасці прапановы здаровага ладу жыцця ў слоічак з фармалінам змясцілі нават чорнае і зморшчанае лёгкае зацятага курца.

Музей тэраталогіі з паўсотняй экспанатаў-пачвараў ужо прыняў каля чатырох тысяч наведвальнікаў. Але прадпрымальнік, які ўзяўся за «раскрутку» экспазіцыі, палічыў нявыгадным для сябе плаціць непамерна высокую арендную плату за памяшканне. Таму з пачатку года музей не працаваў.

Зараз кафедра анатоміі рыхтуе музеі да адкрыцця, дапаўняе экспазіцыі новымі экспанатамі. Ужо падабраныя лекцыі для наведвальнікаў - пра развіццё эмбрыёну, пра адлюстраванне чалавечых паталогіяў у наскальных малюнках, летапісах, скульптурах. Загадчык кафедры анатоміі Сяргей Усоеў сцвярджае, што ўваходны квіток у музей будзе каштаваць танней, чым раней, а грошы будуць скіраваны на патрэбы Гарадзенскага медуніверсітэта і кафедры анатоміі.

**Юлія Дарашкевіч**

# Аптэка-музей прапануе зніжкі

**Аптэка-музей, што месціцца ля Фарнага касёла, у гэтым годзе выпусціла адмысловыя каляндарыкі. Яны выдаюцца тым, хто зрабіў пакупку болей чым на тысячу рублёў, а таксама хранічным хворым ды сталым пакупнікам аптэкі. Прад'яўнік каляндарыка атрымлівае зніжку пяць працэнтаў на ўсе пакупкі ў аптэцы. Зніжка дзейнічае на працягу ўсяго 2001 года.**

Надрукавана 1000 каляндарыкаў. Каля паловы з іх ужо раздадзена.

Аптэка-музей з'яўляецца камерцыйнай аптэкай. А такім аптэкам забараняецца прадаваць лекі айчыннай вытворчасці. Замежныя ж лекі, безумоўна, каштуюць значна даражэй. Гэта і стварыла ў пакупнікоў стэрэатып «дарагавізны» камерцыйных аптэкаў.

«Зламаць гэты стэрэатып ды прывабіць пакупнікоў» - вось галоўныя мэты акцыі, адпаведна словам дырэктара аптэкі-музея Міколы Дарашкевіча.

Дарэчы, гаючыя зёлкі ў гэтай аптэцы найтаннейшыя ў горадзе Гродна.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Палявалі на «Кондара»

**У аўторак ранкам двума невядомымі здзейснены ўзброены напад на таксіста фірмы «Кондар».**

Машыну выклікалі а 4-й гадзіне раніцы ў пасёлак Паўднёвы. Кліентаў доўгі час не было, і кіроўца ўжо збіраўся з'язджаць. Нечакана ў машыну заскочылі двое.

- Куды паедзем?

- У цэнтр, - прагучаў адказ.

Шафёр не паспеў яшчэ завесці матор, як да ягонай скроні прыткнулі дула абрэза паляўнічага ружжа.

- Выскоквай, - грымнула каманда.

Таксіст быў вымушаны падпарадкавацца.

Адзін са злодзеяў сеў за руль «AUDI-100» і машына знікла ў невядомым накірунку.

Кінутае аўта ў хуткім часе знайшлі ў вёсцы Малахавічы. Рабаўнікі забралі з таксоўкі рацыю.

**Юлія Дарашкевіч**

# Як Гарадзенскі КГБ ваюе з афра-азіятамі

**У 2000 годзе спецслужбы Беларусі, у прыватнасці КГБ, правялі шэраг мерапрыемстваў па папярэджанні незаконнага пераходу беларускай дзяржаўнай мяжы. Падчас ажыццяўлення аператыўна-вышуковых дзеянняў было затрымана сем групаў нелегальных мігрантаў колькасцю 122 чалавекі. За мінулы год перакрыта дзевяць міжнародных каналаў нелегальный міграцыі, арганізаваных грамадзянамі Літвы, Польшчы, Індыі ды Беларусі.**

**На гэтую тэму наш карэспандэнт размаўляе з кіраўніком прэсавай службы Упраўлення КГБ па Гарадзенскай вобласці Аляксандрам Марчуком.**

***- Спадар Аляксандр, грамадзяне краінаў афра-азіяцкага рэгіёну даўно ўпадабалі Беларусь, як палігон для пераходу ў Еўропу. Гарадзеншчына, у прыватнасці, мае шматкіламетровую мяжу з Польшчай і Літвою...***

- Упраўленне КГБ Рэспублікі Беларусь па Гарадзенскай вобласці, па-ранейшаму лічыць адным з важных накірункаў сваёй працы аператыўнае прыкрыццё дзяржаўнай мяжы. Прыкладам апошняй апераціі, якая была паспяхова праведзена супрацоўнікамі УКГБ і вайскоўцамі 16-га памежнага атрада, з'яўляецца затрыманне ў снежні 2000 года ў раёне вёскі Парэчча Гарадзенскага раёна групы нелегальных мігрантаў, што спрабавалі незаконна перасячы дзяржаўную мяжу Рэспублікі Беларусь з Літоўскай Рэспублікай.

Увечары 5 снежня мінулага года ў памежнай зоне была спынена для дагляду аўтамашына «ГАЗ-53», якой кіраваў жыхар горада Менска. У машыне знаходзілася 22 чалавекі - грамадзяне Афганістана. Затрымаую групу суправаджаў і прыкрываў аўтамабіль «Volkswagen Passat», якім кіраваў яшчэ адзін наш суайчыннік, блізкі сваяк кіроўцы ГАЗа. Абодва транспартныя сродкі былі абсталяваны неабходнай радыёсувяззю. Па дадзенаму факту следчым аддзелам УКГБ была распачата крымінальная справа, якая знаходзіцца ў стадыі расследавання.

***- Што чакае замежных грамадзянаў, затрыманых пры нелегальным пераходзе беларускай мяжы?***

- Па фактах арганізацыі незаконных пераходаў дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь следчым аддзелам УКГБ у 2000 годзе было распачата і расследавана 11 крымінальных справаў. Асуджана 15 іншаземцаў і грамадзянаў Рэспублікі Беларусь.

Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнутыя і выттураныя з краіны двое грамадзянаў Афганістана, грамадзянін В'етнама і грамадзянін Польшчы.

Вастрыню праблемы нелегальнай міграцыі адчуваюць і нашыя бліжэйшыя суседзі - краіны СНД, праваахоўныя органы і спецслужбы, якія з разуменнем ставяцца да дзеянняў КГБ РБ у рэалізацыі мераў па ахове дзяржмяжы Рэспублікі Беларусь і аказваюць у гэтым садзеянне. Так, супрацоўнікамі УКГБ праведзены шэраг сумесных мерапрыемстваў з ФСБ Расейскай Федэрацыі, у ходзе якіх выяўленыя і затрыманыя лідары і ўдзельнікі злачынных груповак. Да 3,5 гадоў пазбаўлення волі асуджаны грамадзянін Індыі Арміт Пал, які фармаваў у горадзе Маскве групы нелегальных мігрантаў з ліку суайчыннікаў.

Ва ўзаемадзеянні з супрацоўнікамі УУС 13 верасня 2000 года былі затрыманыя пяць польскіх грамадзянаў, што мелі дачыненне да перамяшчэння праз мяжу Рэспублікі Беларусь 16-ці мігрантаў з краінаў ААР. Два матэрыялы расследаванай крымінальнай справы перададзеныя ў праваахоўныя органы Польшчы.

***- Спадар Аляксандр, з Вашых словаў вынікае, што часта арганізатарамі ці памагатымі пры нелегальных пераходах беларускай мяжы з'яўляюцца самі грамадзяне Беларусі.***

- Так, і гэты факт не можа не насцярожваць. У матэрыялах крымінальных справаў, расследаваных у 2000 годзе, у якасці саўдзельнікаў арганізатараў каналаў нелегальнай міграцыі фігуруе 13 жыхароў вобласці, якія за свае дзеянні панеслі заслужанае пакаранне.

Хочацца папярэдзіць тых суайчыннікаў, хто, займаючыся прыватным рамізніцтвам, дастаўляе нелегалаў у памежную зону альбо аказвае садзеянне ім у пераходзе дзяржмяжы ў якасці праваднікa. Беларускім заканадаўствам прадугледжана даволі суровае пакаранне за падобныя злачынныя дзеянні.

# Язык дадзены Бяляеву для таго, каб утойваць свае думкі?

**Тэма прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў аблвыканкаме на мінулым тыдні, «Вынікі працы народнай гаспадаркі за 2000 год і прагноз на 2001 год» абяцала цікавую інфармацыю і таму сабрала нямала журналістаў. На жаль, у большасці з іх надзеі не спраўдзіліся. Сустрэча з намеснікам старшыні аблвыканкама Міхаілам Бяляевым нагадвала хутчэй гульню: журналісты хацелі як мага больш даведацца, а спадар Бяляеў - як мага меней сказаць. Пры гэтым словаў ён гаварыў шмат, умела абмінаючы канкрэтныя лічбы і факты.**

Каб у нас склалася пазітыўнае ўражанне ад стану справаў у эканоміцы вобласці, ён назваў узровень валавой вытворчасці ў 2000 годзе - 103 працэнты ў параўнанні з 1999 годам. З задавальненнем адзначыў павелічэнне долі экспарту на 28 працэнтаў, прычым за кошт паставак у краіны далёкага замежжа. Павялічыўся на 32 працэнты рознічны тавараабарот, па прызнанню спадара Бяляева, за кошт недзяржаўнага сектару. На 10,2 працэнта ўзрос аб'ём платных паслуг. Гэта, бадай, і ўсе станоўчыя тэндэнцыі, пра якія распавёў намеснік кіраўніка адміністрацыі вобласці. Журналістаў цікавілі канкрэтныя прадпрыемствы.

*Пытанне: «Наколькі складана на ВА «Азот» са збытам прадукцыі, што прадпрымаецца для выхаду з крызісу?»*

У адказе на гэтае пытанне спадар Бяляеў пацвердзіў, што такая праблема напраўду існуе, а прычынай яе з'яўляецца зніжэнне сусветных коштаў на капралактам. Так што прадукцыя нашага «Азота» хоць і не саступае па якасці сусветным узорам, перасягае іх па кошту. Паводле меркавання Міхаіла Бяляева, выйсцем з існуючага становішча можа быць дамоўленасць з пастаўшчыком газу - Расеяй - наконт зніжэння кошту на гэты від паліва. А калі не ўдасца дамовіцца? «Тады, - сказаў намеснік старшыні, - прадпрыемства будзе шукаць іншыя рынкі збыту. У «Азота» вельмі моцны аддзел маркетынгу».

*Пытанне: «Вядома, што на Тонкасуконным аб'яднанні (цяпер унітарнае прадпрыемства «Гроднатэкстыль») таксама кепскія справы. Шмат гатовай прадукцыі на складзе. Ці ёсць нейкія перспектывы?»*

Так, сапраўды, на Тонкасуконным аб'яднанні павялічылася колькасць нерэалізаванай прадукцыі. Міхаіл Бяляеў з гэтым пагадзіўся і дадаў, што не адно Тонкасуконнае аб'яднанне ў такім становішчы. Але улада не зніжае сваёй увагі да іх. Вось нядаўна, нагадаў ён, адбыўся Савет дырэктараў, на якім выступіў Аляксандр Дубко і строга указаў на хібы і недагляды. Што яшчэ прадпрымаецца? Спадар Бяляеў назваў чатыры «канкрэтныя» пункты: «Бярэм на асобы кантроль, скарыстоўваем меры адміністрацыйнага ўздзеяння, аказваем дапамогу (якую, не удакладніў - заўвага аўт.), выкарыстоўваем меры эканамічнага плана».

*Пытанне: «Што з праектам Свабоднай Эканамічнай Зоны «Гроднаінвест»?»*

У адказе на гэтае пытанне Міхаіл Бяляеў закрануў 4-гадовую гісторыю шматпакутнага праекта. Запэўніў, што работа не запавольваецца, і закончыў загадкавай фразай: «Спецыфіка нашай Зоны не дазваляе эксперыментаваць на хаду».

Былі зададзеныя і іншыя пытанні. Але ці варта прадаўжаць? Наўрад ці чытачу пададуцца цікавымі расплывістыя і неакрэсленыя адказы, звесткі, якія і без таго даўно ўсім вядомыя? Але ж спадар Беляеў з'яўляецца адным з самых адказных (а значыць, і паінфармаваных) чыноўнікаў абласной адміністрацыі. Відаць, у гэтай канторы дагэтуль прынята лічыць, што чым меней народ ведае, тым лепш для яго павадыроў.

**Ніна Палуцкая**

# Кааператывы аб'ядноўваюцца

**24 студзеня ў Гродне прайшоў сход старшыняў жыллёва-будаўнічых кааператываў, калектываў індывідуальных забудоўшчыкаў і таварыстваў індывідуальных уладальнікаў кватэраў Кастрычніцкага раёна. Гэта стала лагічным працягам «паходу» прадстаўнікоў 27-мі калектываў забудоўшчыкаў 20 снежня мінулага года ў аблвыканкам і Камітэт дзяржкантролю па пытанню перарэгістрацыі юрыдычных асобаў (пра гэта ПАГОНЯ распавядала ў N44 ад 23.11.2000 года).**

Гэтым разам на сходзе прысутнічалі прадстаўнікі больш як сарака калектываў. Яны абмеркавалі свае праблемы, падзяліліся досведам іх вырашэння.

Перад прысутнымі выступіў юрыст, які зрабіў аналіз статута, што выдалі ў адміністрацыі Кастрычніцкага раёна як прыклад для перарэгістрацыі кааператываў і таварыстваў. Было прынята рашэнне дапрацаваць яго з улікам патрэбаў уладальнікаў жылля.

Для далейшай каардынацыі дзейнасці кааператываў і таварыстваў сход абраў кіруючыя органы ў складзе пяці чалавек.

31 студзеня аналагічны сход плануецца правесці і ў Ленінскім раёне горада, каб затым аб'яднацца ў агульнагарадскую асацыяцыю, якая б абараняла правілы жыхароў кааператываў, дапамагала б вырашаць актуальныя праблемы найбольш рацыянальна і ў сціслыя тэрміны.

Стварэнне такой арганізацыі наспела даўно, бо жыхары кааператыўных дамоў у цяперашніх уладаў, як пасынкі, асабліва тыя, чые дамы не знаходзяцца на абслугоўванні ў ЖРЭУ. Ім часцяком даводзіцца выдаткоўваць на камунальныя паслугі і ўтрыманне жылля значна большыя сумы, чым жыхарам дзяржаўных дамоў.

Улада выпраўляць гэтае становішча не спяшаецца, спісваючы ўсё на адсутнасць сродкаў.

**Яўген Чыгір**

# «Пошук», «Белбалтыя»... «Тэхнабанк»?

**У адпаведнасці з артыкулам 98 Банкаўскага кодэкса Рэспублікі Беларусь, з 22 студзеня бягучага года ў ААТ «Тэхнабанк» на тры месяцы прыпынена дзеянне генеральнай ліцэнзіі на ажыццяўленне асобных валютных аперацыяў.**

Гэта азначае, што з вышэйузгаданай даты «Тэхнабанку» патрабуюцца асобныя дазволы Нацыянальнага банка Беларусі на ажыццяўленне здзелак куплі-продажу і канверсіі замежнай валюты з іншымі банкамі, юрыдычнымі асобамі ды індывідуальнымі прадпрымальнікамі. Быццам бы нічога тут надзвычайнага няма. Аднак, узгадайце, з чаго пачаліся вялікія праблемы ўкладчыкаў беларускага банка «Пошук» і «амаль» беларускага банка «Белбалтыя»!!?

Тым часам, Аляксандр Лукашэнка даручыў Савету Міністраў і Нацыянальнаму банку вырашыць пытанне наконт прымусовай ліквідацыі банка «Белбалтыя». «Днямі павінен быць распрацаваны механізм пераафармлення і пагашэння абавязацельстваў перад укладчыкамі», - заявіў начальнік упраўлення інфармацыі Нацбанка А.Драздоў. Будуць кампенсавацца ўклады, размешчаныя ў банку «Белбалтыя», за кошт сродкаў гарантыйнага фонда абароны ўкладаў і дэпазітаў Нацыянальнага банка.

Аднак ніхто ва ўладзе не можа вырашыць досыць далікатнае пытанне: які найбольшы памер гарантуемага вяртання сродкаў па ўкладах? 1000 ці 2000 даляраў ЗША? Бо да 1 верасня 2000 года гранічны памер гарантуемага вяртання сродкаў па укладах быў 2000 даляраў ЗША, а сёння - толькі 1000 даляраў. Падаецца, уладам тут нічога вырашаць і не трэба, бо ўкладчыкі банка «Белбалтыя» не меркавалі, што будуць удвая зніжаныя гарантыі дзяржавы на вяртанне сродкаў і адбудзецца крах банка да ўказанай вышэй даты. Так што і вяртаць гарантаванае трэба напоўніцу, г.зн. да 2000 даляраў ЗША.

Аднак і ўлады «можна зразумець». Калі банкі будуць «ліквідавацца» адзін за другім, то хутка і гарантыі ў 1000 даляраў не будзе з чаго гарантаваць.

**Сяргей Міронаў**

# Ці будзе прадаўжацца зніжэнне коштаў на кватэры?

**Сёння ПАГОНЯ працягвае аналізаваць сітуацыю (тэндэнцыі) на рынку жылля ў Гродне. Прапануем вашай увазе агляд рынку новага і другаснага жылля ў параўнанні: 1996, 1999, і студзень 2001 года.**

З моманту нашага апошняга агляду **(гл.артыкул Кацярыны Зволін «На пакупку кватэры трэба збіраць грошы 90 гадоў» у ПАГОНІ N62 ад 4 лістапада 1999 года)** мінула больш як год. За гэты час сітуацыя на рынку жылля змянілася карэнным чынам: кошты знізіліся на другаснае жыллё больш чым на 25 працэнтаў, а грошы на кватэру не назапасіш і за 100 гадоў, бо заробак стаў значна ніжэй за рэальны пражытковы мінімум.

Тэндэнцыя зніжэння коштаў на кватэры ў Гродне акрэслілася пасля жніўня 1998 года і праіснавала да кастрычніка 2000 года. За апошнія чатыры месяцы кошты фактычна не змяніліся, так што вышэйзгаданае 25-працэнтнае зніжэнне адбылося за перыяд з лістапада 1999 года па верасень 2000 года.

Наогул жа з ліпеня 1996 года па студзень 2001 года кошты на рынку другаснага жылля знізіліся: на аднапакаёвыя «хрушчоўкі» - на 3 400 даляраў ЗША, на 1-пакаёвыя кватэры новай альбо чэшскай планіроўкі - на 4 500 даляраў; на 2-пакаёвыя «хрушчоўкі» - на 5 100 даляраў, на 2-пакаёвыя кватэры новай планіроўкі - на 5 500 даляраў; на 3-пакаёвыя кватэры чэшскай планіроўкі - на 6 700 даляраў ЗША, на 3-пакаёвыя кватэры новай планіроўкі - на 6 500 даляраў; на 4-пакаёвыя «хрушчоўкі» - на 3000 даляраў (найменшае зніжэнне з 1996 года), на 4-пакаёвыя кватэры новай ці чэшскай планіроўкі - на 6 400 даляраў ЗША **(гл.табліцу)**. Найбольшае зніжэнне, зыходзячы з дадзеных табліцы, на 3-пакаёвую кватэру сталінскай планіроўкі - на 12 100 даляраў ЗША. Гэта сёння 3-пакаёвая кватэра новай планіроўкі... Вось гэта спад!

Як вынікае з дадзеных табліцы, кошты студзеня 2001 года на кватэры другаснага рынку жылля ў Гродне, у параўнанні з коштамі лістапада 1999 года, найбольш знізіліся на 3-пакаёвыя «апартаменты», найменш - на 1-пакаёвыя кватэры.

Кошт новых кватэраў у Гродне, у тым ліку і ў дамах, што будуюцца (пабудаваныя), па далявому ўдзелу, таксама знізіўся, у параўнанні з 1996 годам, - прыблізна на 30 працэнтаў, а на некаторыя катэгорыі кватэраў - амаль на 40 працэнтаў.

Сёння, напрыклад, ААТ «Гроднажылбуд» прапаноўвае на продаж ужо гатовыя 3-пакаёвыя кватэры ў мікрараёне «Фолюш» па цане ад 11 000 да 12 700 умоўных адзінак. Яшчэ танней абыдуцца 3-пакаёвыя кватэры ў мікраёне «Вішнявец», тэрмін здачы якіх - III квартал 2001 года (на чатыры-шэсць працэнтаў).

Многія суб'екты адносінаў на рынку жылля і на рынку нерухомай маёмасці задаюць пытанне: «Як надалей зменяцца кошты на нерухомую маёмасць?». Паводле меркаванняў вядучых эканамістаў аналітычнага цэнтра «Рынкавая эканоміка», застойная і «няпэўная» сітуацыя з коштамі будзе доўжыцца да траўня-чэрвеня 2001 года.

**Сяргей Міронаў**

| Месцаразмяшчэнне | Колькасць пакояў | Планіроўка | Тып дома | Кошт ліпень 1996 г. | Кошт студзень 1999 г. | Кошт лістапад 1999 г. | Кошт студзень 2001 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вул. Урублеўскага | адзін | хручш. | панэльны | 8800 | 7900 | 6500 | 5400 |
| Пр-т 40 гадоў Перамогі | адзін | новая | панэльны | 10700 | 9200 | 8100 | 6500 |
| Вул. Фамічова | адзін | чэшская | панэльны | 11000 | 8900 | 7700 | 6400 |
| М-н Дзевятоўка | адзін | новая | цагляны | 10600 | 8900 | 7600 | 6600 |
| Пр-т Касманаўтаў | два | хрушч. | цагляны | 11200 | 9800 | 8300 | 7400 |
| Вул.Дамброўскага | два | новая | цагляны | 14900 | 12300 | 11400 | 9200 |
| Вул.Церашковай | два | чэшская | панэльны | 14000 | 12100 | 11100 | 9000 |
| Вул.Брыкеля | два | новая | панэльны | 15000 | 12500 | 11600 | 9300 |
| Індурская шаша | два | новая | панэльны | 13500 | 11900 | 10800 | 8600 |
| Вул.Шчорса | тры | новая | панэльны | 18500 | 16900 | 15500 | 12000 |
| Вул.Сацыялістычная | тры | сталінск. | цагляны | 29000 | 23400 | 20000 | 16900 |
| Пр-т 40 гадоў Перамогі | тры | новая | панэльны | 17900 | 16200 | 14800 | 11300 |
| Вул.Ліможа | тры | новая | панэльны | 17700 | 15900 | 14700 | 11100 |
| М-н Фолюш | тры | чэшская | панэльны | 18500 | 16400 | 15300 | 11800 |
| Вул. Паповіча | тры | хрушч. | панэльны | 12400 | 11900 | 11200 | 9100 |
| Вул. Горкага | чатыры | новая | цагляны | 24800 | 20500 | 18400 | 15800 |
| Вул.Кляновая | чатыры | новая | цагляны | 20700 | 18800 | 17900 | 14300 |
| Пр-т Я.Купалы | чатыры | чэшская | панэльны | 20500 | 18800 | 17400 | 14100 |
| Вул.Урублеўскага | чатыры | хрушч. | панэльны | 13800 | 13100 | 12300 | 10800 |
| Вул.В.Соламавай | чатыры | новая | панэльны | 20500 | 18400 | 17400 | 13900 |

***Заўвагі: 1) Кошты пададзеныя ва ўмоўных адзінках;***

***2) Кошты прыватызаваных кватэраў (не першы і не апошні паверхі), зыходзячы з попыту прапановы на пэўны перыяд 1996-2001 гадоў***

# Не баставалі, але напалохалі

**Рабочыя лесацэха ААТ «Мастыдрэў» у сувязі з затрымкай выплаты заробнай платы меліся ў знак пратэсту наладзіць страйк. Здзейсніць гэта ім не ўдалося: не хапіла арганізаванасці.**

Нягледзячы на тое, што генеральны дырэктар прадпрыемства Віктар Буры сцвярджаў, што выплаты будуць, калі ў заводскай касе з'явяцца грошы, выдача заробку рабочым гэтага цэха пачалася на наступны дзень. Іншыя цэхі не страйкуюць, і гутаркі пра выплату ім заробку не ідзе.

**Міхась Карпейчык**

# Падаць дэкларацыю пра даходы можна нават уначы

**Ужо другі год дзейнічае правіла паводле якога асобы, што працуюць на некалькіх месцах работы, павінны падаваць дэкларацыю пра ўсе свае заробкі ў падатковую інспекцыю па месцы жыхарства.**

У новым фінансавым годзе фіскальныя органы пайшлі насустрач падаткаплацельшчыкам. Напрыклад, падатковая інспекцыя Кастрычніцкага раёна горада Гродна падоўжыла працу сваіх супрацоўнікаў, адказных за прыняцце дэкларацыяў. Цяпер яны прымаюць грамадзянаў і прыватных прадпрымальнікаў з 8.30 раніцы да 20.00 вечара.

**Сяргей Самасей**

# Удакладненне

У артыкуле «Генадзь Бураўкін гасцюе ў Гродне» (ПАГОНЯ N48, 21 снежня 2000 года) па віне аўтара было сказанае прозвішча загадчыка кафедры беларускай літаратуры Мікалая Мікуліча і сэнс некаторых яго выказванняў. Шчыра перапрашаем.

# Прыгоды Юркі Голуба з Аркадзем Куляшовым

**Нядаўна Саюз беларускіх пісьменнікаў абвясціў лаўрэатаў літаратурных прэміяў у чатырох намінацыях. У галіне прозы прэмію імя Івана Мележа атрымаў Алесь Ветах (Бельскі), у галіне літаратурнай крытыкі прэмію імя Уладзіміра Калесніка - Міхась Тычына, за творы для дзяцей прэмію імя Янкі Маўра атрымала Ніна Галіноўская. А вось прэміяй імя Аркадзя Куляшова за паэзію Саюз пісьменнікаў уганараваў нашага земляка Юрку Голуба. Учора карэспандэнт ПАГОНІ сустрэўся з лаўрэатам.**

***- Юрка Уладзіміравіч, ці спадзяваліся Вы атрымаць гэтую прэстыжную пісьменніцкую ўзнагароду?***

- Абсалютна не чакаў і не спадзяваўся. Гэтая прэмія ўручаецца раз у два гады. Раней яе давалі за лепшыя кнігі. А зараз, паколькі беларускае кнігавыданне перажывае не лепшыя часы, за суму літаратурных подзвігаў (смяецца).

***- Прэмія імя Аркадзя Куляшова...***

- Разумею, пра што вы хочаце спытаць. Дык вось з Аркадзем Куляшовым у мяне былі, калі так можна сказаць, лёсавызначальныя сустрэчы. Першы раз мы з ім сустрэліся на старонках часопіса «Маладосць». У другім нумары за 1966 год была надрукавана мая першая падборка вершаў. У гэтым жа нумары выйшла знакамітая паэма Куляшова «Маналог», прысвечаная сябрам паэта - гулагаўскім вязням - Юлію Таўбіну і Змітраку Астапенку. Нумар гэты было цяжка нават з агнём адшукаць! Другая завочная сустрэча - мая дыпломная праца, якая называлася «Чалавек у франтавой паэзіі А.Куляшова».


Юрка Голуб

***- Ці сустракаліся Вы з класікам асабіста?***

- Так, гэта была нязвыклая сустрэча. У 1967 годзе выйшла кніга Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана», і Куляшоў надта хацеў займець аўтограф Ларысы Антонаўны. Калі я адправіўся з Менска на пабыўку ў родныя мясціны і спаткаўся з паэткай, дык яна мне загадала: «Я падпісала кнігу Куляшову. Перадай яму асабіста ў рукі!» Спаткацца з Куляшовым у Менску было нялёгка, але я ведаў, што ён час ад часу гуляе ў Саюзе пісьменнікаў ў шахматы. За гэтым заняткам я яго і заспеў. Не памятаю, пра што мы гутарылі, але ён быў надта задаволены падарункам.

***- Калі чытачы пабачаць Вашы новыя паэтычныя кнігі? Апошні зборнік вершаў «Сын небасхілу» выдадзены ў 1989 годзе...***

- Каб я меў магчымасць, дык выдаў бы адразу тры зборнікі! Адзін з іх - «Брама зімы» - ужо восем гадоў «ляжыць» у выдавецтве «Мастацкая літаратура»! Але цешыць тое, што хутка ў серыі «Беларускі кнігазбор» выйдзе свежая кніга - «Поруч з даждлжом».

**- Дзякуй за гутарку. ПАГОНЯ шчыра віншуе Вас з узнагародай і зычыць новых творчых поспехаў!**

Гутарыў Ігар Гандлеўскі

# Гісторык Алесь Краўцэвіч запрашае на прэзентацыю

Сёння, 1 лютага, а 19-й гадзіне ў Гарадскім Доме культуры (вул. Дзяржынскага,1) гарадзенскі клуб «Паходня» ладзіць прэзентацыю кнігі доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча «Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага». Запрашаюцца ўсе ахвотныя.

Алеся Сідлярэвіч

# Разнастайны дэбют

**Сёння ў галерэі «Тызенгаўза» адкрыецца выстава жывапісу гарадзенскага мастака Уладзіміра Сідзякіна.**

Гэта першая выстава самадзейнага мастака. На ёй будзе прадстаўлена каля 50-ці твораў самых розных жанраў - пейзажы, партрэты, нацюрморты, рэалістычныя і больш абстрактныя. Плануецца, што выстава будзе доўжыцца месяц.

Алена Сіневіч

# Пасля епіскапаў – узяўся за губернатараў

**У Гродне хуткім часам з'явіцца галерэя ўсіх гарадзенскіх губернатараў. Абласны выканаўчы камітэт замовіў выкананне іх партрэтаў гарадзенскаму мастаку Уладзіміру Качану.**

Нядаўна Уладзімір Качан скончыў працу над партрэтамі 15-ці гарадзенскіх епіскапаў. Яны былі выстаўленыя ў зале Гарадзенскага Саюза мастакоў. Выставу Уладзімір Качан прысвяціў прыезду ў Гродна Мітрапаліта Філарэта. Мастак плануе падарыць партрэты епіскапаў упраўленню Гарадзенскай епархіі.

Паводле словаў Уладзіміра Качана, пры стварэнні партрэтнай кампазіцыі епіскапаў ён карыстаўся працамі гісторыка Валерыя Чарапіцы.

Наогул, над падобнымі партрэтнымі галерэямі мастак працуе з 1997 года. Ім таксама створаныя і партрэты знаных асобаў Гарадзеншчыны.

Павал Мажэйка

# Барыс Данілюк – выдавец з ЗША

**Нядаўна ў Брукліне (ЗША) у выдавецтве Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ) выйшла кніга нашага земляка Барыса Данілюка «Душыныя пасьпевы. Рыфмаваныя пераказы выбраных псальмаў і пабожных вершаў».**

Барыс Данілюк, сын вядомага на Слонімшчыне праваслаўнага святара Хведара Данілюка, на эміграцыю трапіў падчас другой сусветнай вайны. Цяпер ён - вядомы беларускі царкоўны і грамадскі дзеяч у ЗША, шмат гадоў рэдагуе газету «Царкоўны пасланец», якая распаўсюджваецца і на Бацькаўшчыне. Падрыхтаваная Данілюком кніга складаецца з рыфмаваных пераказаў псальмоў, якія ён перакладаў з царкоўна-славянскай, ангельскай і польскай моваў.

«Прашу Бога, каб суд чытачоў над выданнем не быў жорсткі, а мне Ён адпусціў яшчэ крыху часу і здароўя, каб яго дапоўніць», - піша ў пасляслоўі да сваёй кнігі Барыс Данілюк .

Напрыканцы 2000 года Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, якую ўзначальвае мітрапаліт Ізяслаў (на эміграцыі існуе таксама БАПЦ, якую ўзначальвае мітрапаліт Мікалай), выдала яшчэ адну кнігу, у падрыхтоўцы якой таксама браў чынны ўдзел Барыс Данілюк - «Беларускі праваслаўны каляндар на 2001 год». Акрамя ўласна календара, у кнізе змешчаныя такія раздзелы, як «Значныя даты з гісторыі Беларускай Праваслаўнай Царквы», «Беларускія святыя», «Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, даведнік» ды іншыя.

# Кніга Алеся Чобата выйшла ў Смаленску

**Кніга вершаў «Тутэйшая сага» сябра Саюза пісьменьнікаў Беларусі Алеся Чобата выйшла нядаўна ў Смаленску. Яна была надрукаваная ў выдавецтве бібліятэкі часопіса «Годы», якое ўзначальвае беларус Мікалай Ількевіч. Сродкі на выданьне вылучыў цэнтар грамадзянскай адукацыі «Польшча-Беларусь» зь Беластоку.**

**Алесь Чобат - аўтар чатырох кнігаў паэзіі, эсэ «Зямля Святога Лукі» й «Легенда пра чатырох мушкецёраў», шматлікіх хронікаў, біяграфіяў, артыкулаў і апавяданьняў на тэмы гісторыі й сучаснасьці Беларусі. На радзіме Алеся Чобата не друкуюць.**

## Максім Багдановіч

Прароцтваў
не прыпісвайце Максіму!
Да беларусаў пасылаць Месію
даўно не мела сэнсу - і таму
быў лепшы талент дадзены яму.

І Рыцар Збройны
на кані і з мечам,
і сам Гасподзь
над родам чалавечым
не раз Айчыну беглі ратаваць -
а нам было заўсёды напляваць!

Як не хацеў ён
зноў крывавіць гэта!
Ды боль з адчаем давялі Паэта -
і хворы ўжо, і ўжо на сконе дзён
не вытрымаў:
Пагоню клікнуў ён...

(З кнігі Алеся Чобата «Тутэйшая сага»)


Алесь Чобат

# Карты старога Флінта гавораць пра Беларусь

**Як паведамляла ПАГОНЯ, у клубе «Паходня» адбылася прэзентацыя кніжкі менскага аўтара Алеся Белага «Белая Русь». Кнігу можна нават лічыць сенсацыйнай. Гэта першая, паводле словаў аўтара, абгрунтаваная дакументальная спроба абазначыць узнікненне назвы «Белая Русь, Беларусь». Тым цікавейшым падаецца нам аўтар кнігі, што па адукацыі Алесь Белы - інжынер-оптык, цяпер займаецца камерцыяй - справай, далёкай ад гісторыі.**

***- Спадар Алесь, да Вас гісторыкі і філолагі ўжо досыць доўга спрачаліся адносна гісторыі ўзнікнення назвы нашай краіны. Што дае Вам падставы гаварыць наконт пэўнай сенсацыйнасці кнігі?***

- Тая велізарная колькасць старажытных картаў і дакументаў з бібліятэкаў і архіваў Англіі, Польшчы, Беларусі, Расеі, Венгрыі, Швейцарыі, Аўстрыі, Германіі, што я перапапаціў за 10 гадоў работы над кнігай. Можна і так сказаць, што кніга з'явілася дзякуючы маёй «хваробе» гісторыяй картаграфіі. У Лондане ёсць цэлая вуліца - на ёй усе крамы паабапал гандлююць старажытнымі картамі. Там я і знайшоў шмат цікавага.

***- Дзякуючы старым картам, Вы адкрылі нешта прынцыпова новае?***

- Так, на адной рэпрадукцыі карты XVI стагоддзя Беларусь была пазначаная недзе ў раёне Ноўгарада. Я думаў спачатку, што еўрапейскія географы памыліліся. Аднак, як потым высветлілася, ніякай памылкі не было. Тэрыторыя ля Белага мора - ля Ноўгарада, Пскова - называлася Белай Руссю задоўга да таго, як гэтым імем пачалі называць сённяшнюю Беларусь. У прынцыпе, назва гэтая ўзнікла ў свядомасці еўрапейскіх навукоўцаў. Яны на той зямлі ніколі не былі, а штуршком для ўзнікнення назвы ў V-VI стагоддзяў сталі фантастычныя чуткі пра існаванне недзе на ўсходзе незвычайнай краіны Албаніі, дзе жывуць дзіўныя істоты - людзі з ліловымі вачыма, што бачаць у цемры, велізарныя сабакі, якія лёгка забіваюць львоў і сланоў... Потым у збегу акалічнасцяў толькі напрыканцы XVI стагоддзя падчас Стэфана Баторыя Беларуссю пачалі называць невялікі кавалак нашай краіны, адваяваны ў Івана Жахлівага. Прычым, мясцовае насельніцтва не ўспрыняло назву, за яе агітавалі маскоўскія дыпламаты. Так што была гэтая назва напачатку рэлігійна-палітычнай.

***- Я чула, яшчэ адно Вашае захапленне - беларускае броварства?***

- Так, маю мару закласці падмурак пад сучасны беларускі піўны культ. Усе ведаюць, што такое піўная Чэхія, Баварыя, Англія, а што такое піўная Беларусь - ніхто сабе не ўяўляе. Збіраю цяпер матэрыял на, так бы мовіць, «піўную энцыклапедыю Беларусі».

***- Лічыце піва нацыянальным беларускім напоем?***

- Так, патэнцыйна піва - беларускі напой. Хоць зараз нацыянальнымі сталі танныя «Крыжачкі». А тыя ж дакументы XVI-XVIII стагоддзяў сведчаць пра тое, што былі тады беларускія гараджане, якія не толькі парсюкоў вырошчвалі... Гэта дае аптымізм, што ў гэтай краіне было і будзе нешта культурнае, як была культура спажывання, своеасаблівая аўра вакол піва. Напрыклад, свежапачатую бочку піва ўстаўлялі ў комін і спаборнічалі: хто вып`е яе адразу. Ці стараліся выпіць шклянку піва роўна па абазначаных рысах. Розныя былі забавы.

***- Што б Вы пажадалі чытачам ПАГОНІ і Вашай кнізе?***

- ПАГОНЮ чытаю даволі часта, калі ўпершыню ўбачыў, - быў вельмі ўзрадаваны, што ёсць такая газета. Жадаю, каб у вас станавілася ўсё больш чытачоў і прыхільнікаў. А сваім чытачам - здароўя, матэрыяльнага дабрабыту, а галоўнае - аптымізму.

Гутарку вяла
Алена Сіневіч

# Гурэнку ўзялі ў арэнду

**Наш зямляк, капітан зборнай Беларусі па футболу Сяргей Гурэнка, пакідае італійскую «Рому» і пераходзіць у гішпанскую «Сарагосу». Гішпанцы ўзялі Сяргея ў «арэнду» да канца гэтага сезону, з магчымасцю заключэння кантракту пасля таго, як скончыцца тэрмін «арэнды». Як вядома, наш зямляк перайшоў у «Рому» з маскоўскага «Лакаматыва» яшчэ ў 1999 годзе. Аднак так і не здолеў заваяваць месца ў «аснове» рымскага клуба.**

Калі ў сезоне 1999-2000 гадоў Гурэнка часцяком з'яўляўся на полі, выходзячы на замену, то ў гэтым сезоне яму не толькі не знаходзілася месца ў «аснове», але і рэдка даводзілася патрапіць у заявачны ліст на гульню. Не маючы сталай гульнёвай практыкі, цяжка прэтэндаваць на месца ў аснове зборнай нават яе капітану, тым больш, што ўжо напрыканцы сакавіка зборную Беларусі чакаюць важныя гульні ў адборавым турніры чэмпіянату свету 2002 года.

Нагадаем, што 24 сакавіка нашу зборную чакае гульня з Украінай у гасцях, а 28-га - дома, з Нарвегіяй.

**Дзяніс Курчэўскі**

# Нічыя з «Нёманам» святкуецца на браме

**Гарадзенскі «Нёман», які нечакана падзяліў ачкі 28 студзеня ў матчы з хакейным клубам «Гомель», тым не менш працягвае лідзіраваць у чэмпіянаце Беларусі. Нічыя з гомельцамі была толькі другой у гарадзенскага клуба ў сёлетнім сезоне.**

Насуперак чаканням гарадзенскіх заўзятараў, матч пачаўся з атакаў гомельцаў. Першы напраўду небяспечны момант ля брамы экс-гарадзенца Аляксея Емяльянава ўзнік на шостай хвіліне: шайба пасля кідка Ільшата Кадырава адскочыла ад штангі. Надалей каманды абменьваліся небяспечнымі выпадамі. І вось пасля ўкідвання ў зоне гарадзенцаў, выйгранага гомельцам Манахавым, зрабіў кідок Зяленка. Шайба ўляцела ў левы ад гарадзенскага галкіпера Аляксеева кут. На табло загарэліся лічбы 18.02. Лік мог быць павялічаны адразу ж пасля перапынку. Але спярша гомельскія нападнікі Хайлак і Андрыеўскі ўдвух не здолелі ўскалыхнуць сетку за спіною Аляксеева, а цераз хвіліну іх калегі Салапекін і Шавялёў тройчы запар ва ўпор расстрэльвалі гарадзенскага галкіпера, аднак з аналагічным поспехам. Уласна гэта была апошняя небяспечная атака хакейнага клуба «Гомель» у гэтым матчы.

Банальны закон «не забіваеш ты - забіваюць табе», як ні дзіўна, спрацаваў і зараз. На 23-й хвіліне матча, пасля таго, як Пстыга з-за брамы ўкідваў шайбу на пятачок, тая зрыкашэціла аб канёк Глушынскага і апынулася за спіной Емяльянава, лік зраўняўся. Літаральна праз чатыры хвіліны падапечныя Анатоля Варывончыка маглі выйсці наперад, але шайба пасля моцнага кідка Кадырава, як і і ў першым тайме, адскочыла ад штангі. У гомельцаў былі неблагія шанцы, калі на працягу хвіліны яны мелі на двух гульцоў болей і на працягу яшчэ адной хвіліны гулялі ўпяцёх супраць чатырох гарадзенцаў, але...

Трэці перыяд прайшоў пад знакам безумоўнай тэрытарыяльнай і гульнёвай перавагі «Нёмана». Дастаткова сказаць, што першы кідок у бок брамы Аляксеева падапечныя Яўгена Лебедзева зрабілі на 11-й хвіліне. Перад гэтым гарадзенцы «аддалі доўг» гомельцам з другога перыяду: не здолелі выкарыстаць сваю перавагу ў паўтарахвілінны гульні ўпяцёх супраць трох супернікаў. Не прынёс «Нёману» выніку і апошні штурм - Емяльянаў адбіваў усё, што ляцела ў ягоную браму.

Пасля фінальнага свістка гомельцы радаваліся нічыёй з лідарам так, нібыта перамаглі, па меншай меры, у чэмпіянаце краіны. Емяльянаў у гонар гэтага нават узлез на ўласную браму. Наступны матч «Нёман» правёў 29 студзеня супраць аўтсайдара чэмпіёната - менскай спартовай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву «Юнацтва».

І яшчэ адзін цікавы момант. Журналісты, якія прыйшлі на матч, вымушаныя былі назіраць за гульнёй стоячы. Крэслы ў ложы прэсы работнікі Лядовага палаца чамусьці прыбралі. Як пажартаваў адзін з журналістаў, - мабыць таму, што не ўсе прадстаўнікі прэсы ўставалі пры гуках беларускага гімна.

**Пётр Рунге**

**Табліца чэмпіянату Беларусі**

| | Гульні | Перам. | Нічые | Паразы | Шайбы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| «Нёман» | 12 | 10 | 2 | 0 | 61-17 | 22 |
| «Палімір» | 14 | 9 | 2 | 3 | 101-39 | 20 |
| «Менск» | 13 | 9 | 1 | 3 | 83-43 | 19 |
| «Гомель» | 14 | 7 | 1 | 6 | 69-37 | 15 |
| «Магілёў» | 10 | 2 | 0 | 8 | 23-76 | 4 |
| «Хімік-ШВСМ» | 11 | 1 | 0 | 10 | 30-92 | 2 |
| СДзЮШАР «Юнацтва» | 10 | 1 | 0 | 9 | 29-92 | 2 |

# Гарадзенцы паўдзельнічаюць у лукашэнкаўскай «лыжні»!

**Гарадзенцы прымуць удзел у эстафеце «Менская лыжня-2001», што адбудзецца трэцяга лютага ў спарткомплексе «Раўбічы».**

**На лыжы стане Віктар Шніпко, начальнік упраўлення па фізкультуры, спорту і турызму гарадзенскага аблвыканкама, а таксама прадстаўнікі працоўных калектываў вобласці, студэнты ВНУ, ПТВ і школьнікі - усяго 56 чалавек з вобласці.**

**Усе выдаткі на праезд, харчаванне і пражыванне возьме на сябе абласное ўпраўленне спорту і турызму.**

**Юлія Дарашкевіч**

# Міжсезонне ў футболе

**Давайце звернемся да тых падзеяў, што адбываюцца ў нашым «Нёмане-Белкардзе». Стала вядома, што 24 студзеня «Нёман-Белкард» закончыў збор у Парэчча і адразу патрапіў у Магілёў, дзе ўзяў удзел у турніры.**

Гарадзенскі клуб выступіў двума складамі (у Магілёў паехалі 28 гульцоў). У гульнях удзельнічалі Мікалай Курыловіч і Валерый Якушык, якія ў мінулым сезоне гулялі за «Керамік» (г.Бяроза).

Плануецца, што каманда будзе ўдзельнічаць у турніры ў Наваполацку, а магчыма, і ў турніры ў Пінску. Таксама плануецца правесці збор у Ванграўцы (Польшча), дзе нёманцы ўдала згулялі ў мінулым міжсезонні.

**Сяргей Коўшык**

1. Вагавая, лекавая і грашовая адзінка, назва якой паходзіць ад упрыгожання. 2. Поўная абыякавасць да ўсяго; вяласць, бязволле. 3. Арол. 4. Памяшканне для сушкі снапоў, сена, лёну. 5. Недарэчнасць, бязглуздзіца. 6. Паталагічная слабасць волі. 7. Умоўны знак, які вымаецца наўгад з ліку падобных прадметаў пры вызначэнні чарговасці, абавязку або права на што-небудзь.




**Адказы на галаваломку, змешчаную ў N4 (500)**

1. Амбра. 2. Адокса. 3. Валынка. 4. Лігатура. 5. Эўрыстыка. 6. Махлярства. 7. Абшыванка. 8. Віньетка. 9. Аблічча. 10. Льячка. 11. Кліпа.

# Ваша касмічная дыета

**Чалавек рэагуе на пэўныя рытмы і цыклы, якімі жыве Прырода. Важнейшая фаза - сямідзённы цыкл псіхафізічнай актыўнасці, што пачынаецца з нядзелі і ўзаемазвязаны з днямі тыдня, кіруючымі планетамі ды адпаведнай дыетай.**

**Нядзеля** - дзень Сонца, які дарue людзям энергію і актыўнасць. У гэты дзень арганізм чалавека здольны засвойваць любую ежу. Асабліва спрыяльны для людзей, якія нарадзіліся 1, 4, 10, 13, 16, 19, 22, 28 і 31 чысла.

**Панядзелак** - дзень Месяца, які прыносіць чалавеку расслабленасць і раздражняльнасць. Паспрабуйце ў гэты дзень выключыць са свайго рацыёну салёныя, марынаваныя, вэнджаныя прадукты, печыва і алкаголь. Варта есці аўсяную кашу, малочныя прадукты, садавіну, ягады. Дзень надзвычай спрыяльны для тых, хто нарадзіўся 2, 5, 11, 14, 20, 29 і 30 чысла.



**Аўторак** - дзень Марса. Чалавек адчувае павышаную ўзбуджальнасць. Варта ўжываць у ежу цыбулю, прыправы, часнок, памідоры, яйкі. А вось ад ласункаў і печыва давядзецца адмовіцца. Спрыяльны дзень для людзей, што нарадзіліся 3, 7, 9, 18, 23, 25 і 27 чысла.

**Пятніца** - дзень Венеры, павышанай эмацыйнасці ды пачуццёвасці. Не рэкамендуецца есці мяса, грыбы, яйкі, вострую ежу (паласавацца ўсім гэтым лепей у сераду і чацвер). Аддайце перавагу салодкім стравам, садавіне, арэхам, ягадам. Не пашкодзіць смажаная ці інакш прыгатаваная бульба. Надзвычай спрыяльны дзень для тых, хто нарадзіўся 6, 12, 15, і 24 чысла.

**Субота** - дзень Сатурна. Людзі павінны быць засяроджанымі і назапашваць сілы для новага цыклу. Варта пазбягаць вэнджаных, смажаных страваў, кансерваваных прадуктаў і алкаголю. Ёшчэ яйкі, капусту, гародніну, зеляніну, арэхі, сыр, тварог, грыбы. Гэты дзень спрыяльны для людзей, якія нарадзіліся 8, 17, 21 і 26 чысла.

# Сем запаветаў даўгалецця

**Фінскія медыкі распрацавалі запаветы, выкананне якіх, на іх думку, дазваляе падоўжыць жыццё, прынамсі, на 10 гадоў.**

1. Не курыць (адмова ад тытуню зніжае на 1/3 рызыку з'яўлення злаякасных пухлінаў і на 1/4 - смяротнасць ад інфаркту).
2. Адмовіцца ад ужывання алкагольных напояў.
3. Падтрымліваць вагу цела ў норме (смяротнасць сярод асобаў, што пакутуюць на атлусценне, у паўтара раза вышэй, чым сярод людзей з нармальнай вагой).
4. Не забывацца на фізічную актыўнасць.
5. Заўжды снедаць.
6. Не есці ў перапынках між ежай (паміж снеданнем і падвячоркам і гэтак далей).
7. Спаць хаця б сем гадзін на суткі.






♈ **Баран (21.03-20.04).** На гэтым тыдні Вам лепей было б устрымацца ад значных расходаў. У суботу завітайце да сяброў.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Не плануйце нічога, што звязана з працоўнай дзейнасцю. Пашырайце кола творчых інтарэсаў.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Адчувальную разрадку прынясуць шматлікія кантакты з прадстаўнікамі працілеглага полу. Устрымайцеся ад спіртных напояў.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Прыняцце важных рашэнняў адкладзіце да пятніцы - не выключана, што суб'ектыўная ацэнка сітуацыі ўскладніць яе.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Калі адчуваеце патрэбу ў парадах сяброў, - смела звяртайцеся да іх. Ёсць верагоднасць рамантычных сустрэчаў.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Не ўтойвайце нічога, што Вас непакоіць, трывожыць і палохае, - парайцеся з каханым(-ай) альбо добрымі знаёмымі. Галоўнае - не панікаваць.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Надзвычай добра падзейнічае на Вас невялікае падарожжа. Пры недахопе фінансаў Вы ведаеце, да каго звярнуцца па дапамогу.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Сустрэча са старым сябрам (сяброўкай) абяцае быць неверагодна прыемнай і шматабяцальнай. Сумесна са знаёмай спланууйце ўікэнд.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Варта плённа папрацаваць. Цацлівыя мерапрыемствы могуць пачакаць.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Паспрабуйце знайсці аптымальнае выкарыстанне свайму творчаму патэнцыялу. Дзейнічайце!

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Надзвычай спрыяльны для Вас тыдзень. Правядзіце яго як мага з большай карысцю для сябе.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Зоркі абяцаюць Вам добрую паездку і невялікія фінансавыя страты, калі здолееце прадэманстраваць свае шматлікія таленты.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі:
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня»
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 31.01.2001 г.
Замова 424 Наклад 7 651

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Ірына Салей,
камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей